# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА "Рух "За Свабоду". Выпуск № 1 травень 2013




# Аляксандр Мілінкевіч: Захаваць «смак Еўропы»

**Рэзанансны выступ лідара Руху «За Свабоду» у Еўрапарламенце падчас красавіцкай канферэнцыі, прысвечанай Беларусі.**



Аб'яднанай Еўропе патрэбны сур'ёзны аналіз усходняй палітыкі, бо тут назіраюцца негатыўныя паразныя тэндэнцыі. Павінна быць распрацавана і рэалізавана новая стратэгія – дзеля пашырэння дэмакратыі і стабільнасці на кантыненце. Геапалітычная сітуацыя мяняецца на горшае: замацоўваецца антыдэмакратычны і постімперскі рэваншызм. Еўразвязу патрэбна грунтоўная стратэгія канкрэтных захадаў, а не рыторыкі. Не словы пра пачуцці, а супольныя дзеянні!

Даводзіцца канстатаваць, што праграма Усходняе Партнёрства не нашмат прасунулася ў сваім ажыццяўленні: Крэмль паспяхова нейтралізуе гэтую ініцыятыву, не шкадуючы вялікіх рэсурсаў на ангажаванне ў сваю сферу ўплыву. У Расіі энергія абслугоўвае палітыку, у Еўразвязе палітыка часта служыць энергіі.

Ва ўсіх дзяржавах Усходняга Партнёрства сёння адбываюцца падобныя працэсы. Еўропы тут становіцца не больш, а менш. Масква ўжо ажыццяўляе паўзучую контрарэвалюцыю ў Грузіі і Малдове, якія было задэкларавалі паварот да ЕЗ, і намагаецца незваротна прывязаць да сябе краіну-сатэліт Беларусь. Расійскія грошы з поспехам пачынаюць прыватызоўваць уладу на постсавецкай прасторы і нават уплываць на палітычныя працэсы ў краінах – новых сябрах Еўразвязу.

Прычына паразаў усходняй палітыкі – у разнастайнасці і непаслядоўнасці стратэгій ЕЗ, у Расіі ж – адна ясная стратэгія супрацьдзеяння еўрапеізацыі і дэмакратызацыі былых савецкіх рэспублік. На жаль, яшчэ нядаўна перасцярогі наконт рэваншысцкай палітыкі Крамля ўважаліся за русафобства і канспіралогію. Але сёння сітуацыя ілюструе, што гэта былі слушныя засцярогі наконт неэфектыўнасці захадаў ЕЗ і наконт недаацэнкі контрзахадаў Масквы, якая адбудоўвае імперыю, дзе камунізм заменяць алігархі.

На саміце Усходняга Партнёрства увосень гэтага года неабходна захаваць шанцы перадусім Грузіі, Украіны і Малдовы на асацыяцыю і еўраінтэграцыю, нягледзячы на негатыўныя перамены апошняга часу ў гэтах краінах.

З Беларуссю больш складаная сітуацыя: тут варта спрыяць лібералізацыі і еўрааптымізму насельніцтва і ўладных эліт, захаваць «смак Еўропы».

Важны элемент паслядоўнай стратэгіі ЕЗ ва ўсходнім накірунку – цярпенне.

**Працяг на с. 2**

# ...Захаваць "смак Еўропы"

Пачатак на с.1

Змена постсавецкага менталітэту патрабуе змены некалькіх пакаленняў, цыклы еўрапрагрэсу і рэгрэсу могуць паўтарацца, але ЕЗ не павінен у складаныя перыяды краінаў «шасцёркі» з Усходняга Партнёрства казаць: не хочаце з намі – да пабачэння!

Аднаўленне імперыі не толькі запавольвае ўсталяванне дэмакратыі ў нашай частцы Старога кантынента і перакройвае ягоную мапу, але шкодзіць і самой Маскве. Бесперспектыўная ідэя яшчэ больш аддаляе Расію ад еўрапейскай цывілізацыі і вядзе да супрацьстаяння з ёй.

Разам з тым зразумела, што без дыялогу з Крамлём не абысціся. Патрэбна збліжэнне ЕЗ і Масквы, але не любым коштам. Яно павінна ладзіцца на празрыстых прынцыпах прагматычных стасункаў і з захаваннем каштоўнасцяў Аб'яднанай Еўропы.

Сёння ідуць спробы аднаўлення кантактаў Беларусі і Еўразвязу. Ва ўмовах эканамічнага крызісу і пры ўзмацненні ціску Расіі рэжым зацікаўлены ў павялічэнні экспарту, шукае інвестараў і крэдытнай падтрымкі. У беларускім урадзе ёсць міністры, якія разумеюць неабходнасць пераменаў, лібералізацыі і прыватызацыі, аднак Лукашэнка насцярожанна ставіцца да структурных рэформ. Спробы мадэрнізацыі пры захаванні жорсткага каманднa-адміністрацыйнага кантролю пакуль не прыводзяць да плённых вынікаў.

Зразумела, што Еўропа стамілася ад беларускага пытання. З аднаго боку, рэжым не дэмакратызуецца, але слабее, аднак і ўплыў дэмакратаў памяншаецца. Абсалютная большасць беларусаў выступае за перамены, але не ведае – хто і як іх можа ажыццявіць.

У гэтых умовах няма пазітыўнай альтэрнатывы абумоўленаму і крытычнаму дыялогу з Еўразвязам. Ён не гарантыя, але шанец захаваць для Беларусі еўрапейскую перспектыву. Санкцыі ЕЗ не вызваляюць палітвязняў, павялічваюць антызаходнія настроі, памяншаюць уплыў дэмакратаў, паскараюць эканамічную анексію Расіяй. Крытыкам палітыкі дыялогу варта нагадаць, што ў сучаснай гісторыі Беларусі вязні сумлення выходзілі з турмы не ў выніку санкцый, а пасля візітаў Саланы і Младэнава, якія меліся распачаць дыялог. Падчас першага дыялогу ў 2008-10 гадах палітычныя рэпрэсіі змяншыліся больш як у тры разы (па дадзеных праваабаронцаў «Вясны»), значна ўзмацніліся праеўрапейскія настроі беларусаў, пашырыўся уплыў грамадзянскай супольнасці на працэсы ў краіне.



*«Чым бліжэй да Еўропы, тым болей незалежнасці і правоў чалавека»*

Дыялог даваў Еўропе інструменты ўплыву на ўнутраную сітуацыю ў Беларусі. Ён быў перарваны правакацыяй беларускіх спецслужбаў, верагодна з расійскім следам, 19 снежня 2010 году.

Падзеі апошніх гадоў паказваюць – чым бліжэй да Еўропы, тым болей незалежнасці і правоў чалавека. Любы пазітыўны крок у бок Захаду лепш, чым крокі, што вядуць да ўзмацнення залежнасці ад Расіі і страты суверэнітэту.

Нашым лозунгам мусіць быць: «Болей Еўропы ў Беларусь!». Болей кантактаў, абменаў, народнай дыпламатыі…

Шырокая супраца з уладамі можа распачацца толькі пасля вызвалення палітычных вязняў. Дыялог Еўразвязу з Беларуссю павінен рэалізоўвацца праз «дарожную мапу» пакрокавага збліжэння – «крок за крок». Галоўнай яго мэтай мае быць заваёва розумаў і сэрцаў беларусаў.

• Патрэбна максімальнае спрашчэнне візавага рэжыму з паступовым пераходам да бясплатных шэнгенаўскіх візаў. Запэўніваю, што гэта не прывядзе да ўсплёску нелегальнай міграцыі;

• Неабходна практычная рэалізацыя ўмоваў аб малым памежным руху ў 50-кіламетровай зоне на мяжы з Польшчай і Літвой;

•Важна спрасціць для малога і сярэдняга бізнэсу правілы стварэння і функцыянавання ў ЕЗ сумесных беларуска-еўрапейскіх прадпрыемстваў;

• Неабходна пашырыць магчымасці для беларусаў у атрыманні еўрапейскай адукацыі: паўнафарматны доступ да праграм ERASMUS, павялічэнне квот на бакалаўрскіх і магістарскіх праграмах еўрапейскіх універсіэтаў, у прафесійных стажыроўках у ЕЗ і ў праграмах абмена для прадстаўнікоў бізнэсу, дзяржструктур, навуковых арганізацый, грамадзянскага і палітычнага сектараў;

• Пашырыць падтрымку грамадзянскай супольнасці, працуючай у Беларусі, у тым ліку праектаў па развіцці беларускай ідэнтычнасці і культуры.

Еўрапейскі дыялог для мадэрнізацыі – надзвычай важны праект. Хацеў бы перш за ўсё звярнуць увагу на неабходнасць шырокай папулярызацыі гэтай працы па ўсёй краіне: праз круглыя сталы, канферэнцыі, дыскусіі, заангажаванне мясцовых эліт і мас-медыя. Важна працягнуць у грамадстве дыскусію на тэму «Пра якую Беларусь мы марым?». У выніку павінна паўстаць Народная Праграма і вера ў магчымасць яе рэалізацыі, вера ў сябе і ў еўрапейскую перспектыву краіны.

# Рада ў асобах: **Пётра Кузняцоў**




**– Чаму Вы ў Руху «За Свабоду»?**

– Я ўступаў у Рух «За Свабоду!» таму, што шляхі і метады менавіта гэтай арганізацыі пасавалі мне больш за ўсё дзеля дасягнення рэальных пераменаў у Беларусі. І застаюся тут таму, што Рух дагэтуль з'яўляецца менавіта такой арганізацыяй.

**– Чаго чакаеце ў арганізацыі для самарэалізацыі? Якія Вашыя амбіцыі ў палітыцы, грамадскай дзейнасці?**

– Мае амбіцыі і ў палітыцы, і ў грамадскай дзейнасці аднолькавыя – спрыяць, наколькі будзе хапаць сілаў, энергіі і творчага патэнцыялу, таму, каб на Беларусі настала свабода. Гэта значыць, каб стварылася сапраўдная грамадзянская супольнасць і канкурэнтная палітыка. І адначасова амбіцыя – знайсці сваё месца ў менавіта такой краіне, а цяпер зрабіць зачын дзеля рэалізацыі свайго патэнцыялу на будучыню. На жаль, фактычна ўпэўнены, што большых амбіцыяў сёння мець не мае сэнсу: пакуль слабое грамадства, яно не можа ўплываць на палітычнае жыццё, а гэта азначае, што дасягаць нейкіх іншых мэтаў, чымсьці змены ў народнай ментальнасці, у грамадскай думцы, можна толькі праз змову з сумленнем. А мне гэта не падыходзіць.

**– Плюсы і мінусы Руху?**

– Галоўны плюс – ва ўзважанасці планаў ды ўчынкаў. Але ў гэтым жа і галоўны мінус, бо ва ўмовах амаль татальнай ірацыянальнасці, якая пануе на Беларусі, нярэдка, каб быць эфектыўнымі, варта прымаць хуткія альбо нават авантурныя рашэнні.

Шмат больш дробных плюсаў і мінусаў, але не мае сэнсу на іх асабліва спыняцца, бо ў тае альбо іншае ступені яны характэрныя для ўсіх грамадска-палітычных суб'ектаў нашае краіны.

**– Што трэба рабіць Руху дзеля большага плёну?**

– Усім у Беларусі дзеля большага плёну трэба рабіць адну рэч – больш працаваць і працаваць больш актыўна, крэатыўна і адказна.

Ваш прагноз развіцця сітуацыі ў Беларусі на бліжэйшыя некалькі гадоў?

Улада будзе надалей аддаляцца ад народу, і гэты працэс будзе ўзаемным. Фактычна ўзнікне две паралельныя краіны. Паглыбляць гэты раскол будзе той фактар, што ўсё большая колькасьць людзей будуць эміграваць з эканамічных прычынаў.

Выратаваць краіну можна толькі адным шляхам: стварыць прывабную альтэрнатыву і прымусіць людзей паверыць ў яе дасягальнасьць. Толькі дзеля гэтага яны могуць застацца і пачаць укладацца ў развіццё тут, а не дзесьці ў іншым месцы. Зрабіць гэта можа толькі апазіцыя, бо на дзяржаву ў гэтым сэнсе фактычна ўжо надзеяў не засталося. Але ці здолее яна гэта зрабіць – гэта ўжо пытаньне такое, наконт якога немагчыма даць прагноз.



Працяг на с.6

# Антон Астаповіч: **Удзячны...**

**Сустрэчу старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, сябра Рады Руху «За Свабоду» Антон Астаповіч журналісту «Салідарнасці» прызначыў у сталічным пабе «Гамбрынус». Афіцыянтка звярнулася да яго па-беларуску. Грамадскі актывіст тут заўсёднік.**


WWW.BELGAZETA.BY

– Сустракаемся тут са знаёмымі з Генпракуратуры. Там ёсць аддзел, з якім я супрацоўнічаю. Якому скаргі пішу і які мяне кансультуе. У нас нармальныя працоўныя адносіны.

Мы яшчэ ў 2010 годзе ачысцілі свае шэрагі ад амецця апазіцыі і працуем зараз з людзьмі, якія рэальна могуць вырашаць праблемы. Гэта значыць, толькі з дзяржаўнымі органамі.

**– Чаму?**

– А што з гэтымі баклажанамі-апазіцыянерамі працаваць – яны толькі гарлаюць, справай не займаюцца. У нашай галіне толькі з апірышчам на дзяржаву нешта можна зрабіць. А яны што – толькі пашумяць для ўласнага піяру, і ўсё.

Наогул мне як глыбока не сімпатычныя нашы чыноўнікі, так і глыбока не сімпатычная наша апазіцыя.

**– Амаль 17 гадоў вы адпрацавалі ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту («Строчыцы»). Што за гэты час зрабілі?**

– Сабраў і перадаў у музей каля 3000 экспанатаў, зрабіў некалькі экспазіцый. Даводзілася курыраваць і рэстаўрацыйныя, будаўнічыя аб’екты. Атрымаў велізарны бюракратычны досвед, які цяпер выкарыстоўваю.

**– Што гэта была за гісторыя, калі на вас скардзіліся і пісалі ананімкі?**

– 2005 год, апошні год працы старога дырэктара і цудоўнага чалавека Георгія Андрэевіча Ткацэвіча. Пры ім я пачынаў, дарос да намесніка дырэктара па навуцы, ён мяне рыхтаваў на пасаду кіраўніка. Але шмат каму з супрацоўнікаў мая кандыдатура была непажаданая, у мяне патрабаванні досыць жорсткія. Гэта выклікала шквал ананімак. Я, дарэчы, удзячны ім за гэта. Пасля гэтых пасланняў паверыў, што з’яўляюся ўнікальнай асобай.

У адной з ананімак пісалася, што я кожны дзень ляжу п’яным пад сталом, адначасова валодаю падпольнай турыстычнай фірмай і атрымліваю каля 30 млн. рублёў у месяц з незаконных работ на музейнай пілараме.

Я падумаў: унікальны чалавек! Будучы штодня ў дым п’яным, магу кіраваць падпольнай фірмай і яшчэ круціць справы на пілараме!

Ананімкі садзейнічалі таму, што дырэктарам я не стаў.

**– Па гэтых жа прычынах сышлі з музея?**

– Не, не склаліся адносіны з новым кіраўніцтвам. Ніякай палітыкі там не было. Мае палітычныя погляды былі ўсім вядомыя. Пры гэтым на мяне з 2004 года павесілі ідэалогію. Я і іншыя смяяліся: знайшлі на каго вешаць. Але, з іншага боку, каму гэта было даручыць: працаваўшаму ў нас маёру МУС у адстаўцы?

**– І як вы праводзілі дзяржаўную ідэалогію?**

– Нармальна. Ці не правёў ніводнага дня інфармавання. Гэтай бадзягай я не займаўся. Што я буду людзям локшыну на вушы вешаць?

**– Ваша меркаванне часцяком ідзе насуперак з грамадскім. Апошні выпадак, калі вы былі не згодныя з пазіцыяй большасці?**

– Чамусьці ўсе былі закаханыя ў былога міністра культуры Латушку. Але я бачу, што нічога, акрамя негатыву, ён на гэтай пасадзе не зрабіў.

**– Андрэй Курэйчык назваў яго лепшым міністрам культуры апошніх дзесяцігоддзяў.**

– Скажам так: некаторыя людзі былі набліжаны пры Латушку да размеркавання бюджэтных сродкаў. Чытаў выступ Курэйчыка, але не ўбачыў, што ж канкрэтна добрага адбылося пры гэтым міністры.

**Працяг на с.5**

# ананімкам

Пачатак на с.4

Я ж магу сказаць, што пры Латушку разваліліся ў кадравым плане музейная справа, развалілася сфера кіравання ў Мінкульце – звольніліся ўсе кваліфікаваныя менеджэры, прыйшлі людзі, якія не могуць вырашаць пытанні.

Пры Латушку разбалансавалася сістэма аховы гісторыка-культурнай спадчыны – на ўзроўні выканання элементарных працэдур. Я не бачу ніводнага пазітыўнага кроку.

Успамінаюць аб заснаванні музея Быкава ў Ждановічах. Але мы з дачкой Алеся Адамовіча Наталляй ў гэтым годзе «прабілі рашэнне» на ўзроўні Магілёўскага аблвыканкама і Бабруйскага гарвыканкама аб заснаванні музея Адамовіча ў пасёлку Глуша, дзе жыў пісьменнік. Але не крычым пра гэта на ўвесь белы свет, а паволі робім справу...

Я лічу, што ўся праца Латушка была накіравана на піяр. Наогул думаю, што ён найбольш удалы кадравы праект Адміністрацыі прэзідэнта.

На жаль, наш народ не ўмее аналізаваць. Такое ўражанне, што людзі далей загалоўкаў нічога не чытаюць.

**– Ці ёсць хоць хтосьці сярод апазіцыянераў, да каго вы ставіцеся добразычліва?**

– Мне глыбока сімпатычны Зянон Пазняк, хоць і ўсведамляю ўсе яго палітычныя хібы. Па-першае, ён часта кажа вельмі правільныя і патрэбныя рэчы. Па-другое, я яго вельмі люблю як моцнага навукоўца.

Мне дастаткова сімпатычны Аляксандр Мілінкевіч. З сучаснай палітычнай апазіцыі ён, напэўна, адзіны, хто жыве ў свеце рэальнасці.

**– Вы ўвесь час скардзіцеся на чыноўнікаў. А сустракалі вы сярод іх прафесіяналаў?**

– Магу назваць Уладзіміра Паўлавіча Грыдзюшку. Цяпер ён дырэктар Опернага тэатра, а да канца 2009 года працаваў намеснікам міністра культуры. Пры ўсіх нашых канфліктных сітуацыях паважаў яго і лічу, што ён добры кіраўнік.

Разумею, што ён ніколі б не пакінуў пасаду дырэктара Опернага тэатра, але на пасадзе міністра культуры гэта была б найбольш адэкватная персона.

**– Антон Уладзіміравіч, ці сутыкаліся вы з пагрозамі праз сваю дзейнасць па абароне гісторыка-культурнай спадчыны?**

– Не хачу рабіць з сябе героя, нічога такога не было. Хоць здараліся канфліктныя сітуацыі з «Трайплам» і яго ўладальнікам Юрыем Чыжом. Некалькі месяцаў таму мне ў суботу патэлефанаваў памочнік Чыжа і сказаў: праз гадзіну вас чакае Юрый Аляксандравіч. У сустрэчы ім я адмовіў. Адказаў, што справы так не робяцца. Я не школьнік. Калі ён хоча сустрэцца – трэба загадзя дамаўляцца. Ён – бізнэсмэн, я – кіраўнік нацыянальнага грамадскага аб'яднання. Сустракаемся на парытэтных пачатках, пад пратакол, загадзя ўсё ўзгадняем. Пасля гэтага ніякіх званкоў мне больш не паступала.

**– З-за чаго канфліктавалі з Чыжом?**

– Прасачылася інфармацыя, што Чыж збіраецца выкупіць першы мінскі хлебазавод на Ракаўскай і пабудаваць на яго месцы 13-павярховы гатэль. Я ў Адміністрацыю прэзідэнта напісаў ліст, што выгаду ад гэтага атрымае толькі Чыж. А дзяржава страціць: перш за ўсё, у сваім іміджы – атрымае чарговы неадэкват у гістарычным цэнтры Мінска з парушэннем заканадаўства.

Пасля гэтага Чыж адмовіўся ад сваіх намераў. Пляцоўка выстаўленая на аўкцыён з жорсткімі ўмовамі па захаванні забудовы.

Нам не ўсё ўдаецца спыніць, але мы ўсё ж выконваем асноўную функцыю – па інфармаванні дзяржаўных органаў. Не на ўзроўні істэрыкі, а на ўзроўні прававых дакументаў. І часам гэта спрацоўвае.

**– Вы пісалі, што хадзіць з плакатамі «абаронім нашу спадчыну» – значыць, нічога не рабіць.**

– Засвяціліся ў СМІ, а далей што? А далей яны забываюць аб справе.

**– Дык што рабіць?**

– Займацца юрыдычнай працай. Па-першае, помнікі трэба дакументаваць. Неабходная элементарная фотафіксацыя, габарытныя абмеры. Па-другое, трэба дасылаць у Мінкульт прапановы аб прысваенні статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці аб'ектам, якія не пад аховай дзяржавы. Па-трэцяе, фіксаваць парушэнні, весці перапіску.

**– Трохі пра асабістае. Дзе жывяце, чым зарабляеце на жыццё?**

– Зарабляю дамоўнымі працамі. Я добры гісторык, пішу, у прыватнасці, гістарычныя даведкі. Жыву ў Мінску. Сям'я – жонка і двое дарослых дзяцей, усе гавораць па-беларуску.

**– Вам чыноўнікі мянушкі яшчэ не далі?**

– Не далі. Але адна высокапастаўленая асоба з гарвыканкама казала мне: Антон Уладзіміравіч, вамі нашы чыноўнікі ўжо дзяцей палохаюць.

# Пётра Кузняцоў (працяг)

Пачатак на с.3

Бліц-апытанка

**– Узорныя для Вас асобы ў палітыцы (Беларусь і свет)?**

– У сусветнай палітыцы гэта Джордж Вашынгтан, Маргарэт Тэтчар, Уінстан Чэрчыль, у беларускай… не ведаю.

**– Апошнія ўпадабаныя прачытаныя кнігі, прагледжаныя фільмы, праслуханая музыка?**

– Апошняя прачытаная кніга – «Імя ружы» Умберта Эка, фільм – «Рассказы» (Расія), апошняя упадабаная праслуханая музыка – «Love Story» by Andy Williams.

**– Улюбёныя віды спорту (у іх каманды, спартоўцы)?**

– Футбол: клубы «Гомель» і «Мілан».

**– Улюбёныя прымаўкі, афарызмы, слоганы?**

– «Разбярэмся»; «Жыццё пражыць – не поле перайсці»

**– Заняткі, што даспадобы, у пазапалітычны, пазапрацоўны час?**

– Чытанне, гульні з дзецьмі.

**– Топ-5 улюбёных краін (чаму і за што)?**

– Літва (за тое, што там ёсць Вільня), ЗША (за ўсё :) ), Польшча (самая блізкая сапраўдная Еўропа), Бельгія (вельмі «салодкая краіна»). І, натуральна ж, Беларусь, бо тут нарадзіўся.

**– Улюбёныя мясціны ў Беларусі?**

– Гомель, вёска Абакумы ў Лоеўскім раёне, Палессе (Прыпяць, Жыткавічы, Петрыкаў і так далей), Тураў.

**– Тры побытавыя рэчы, без якіх Вам няўтульна?**

– Няма такіх. Утульнасць ў галовах, як і разруха.

**– З чым у сабе змагаецеся?**

– З працагалізмам і звычкаю паліць.

**– Раскажыце добры анекдот:**

– Анекдоты мне апошнім часам як крыніца гумару не падабаюцца, таму, напэўна, не раскажу :).

## Біяграфія

**Сям'я**

Нарадзіўся 16 кастрычніка 1981 года ў Гомелі. Беларус.

Жанаты, дачка – Злата (3,5 года), сын – Альгерд (1 год).

**Адукацыя**

1999. Гомельская школа-ліцэй № 56 пры Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны, юрыдычны клас.

1999-2001. Гістарычны факультэт ГДУ імя Ф. Скарыны, які пакінуў, каб уладкавацца на працу.

**Праца**

2002-2003. Наладчык аўтаматычнай лініі, прыватнае кандытарскае прадпрыемства «Саном».

З 2004 г. На розных пасадах у грамадска-палітычным сектары.

Са студзеня 2010 года і па сённяшні дзень. Дырэктар прыватнага сэрвіснага



ўнітарнага прадпрыемства «Друкаванае слова».

**Грамадска-палітычная дзейнасць**

2004-2008. Старшыня гомельскага аддзялення моладзевай арганізацыі «Грамадзянскі форум».

2005-2008. Сябра Палітрады незарэгістраванай Партыі свабоды і прагрэсу.

2008. Заснавальнік гомельскай абласной Грамадзянскай ініцыятывы «Гомельскі дэмакратычны форум».

2008-2009. Кіраўнік гомельскай абласной Грамадзянскай ініцыятывы «Гомельскі дэмакратычны форум».

З лістапада 2009 года і па цяперашні час. Кіраўнік гомельскага абласнога аддзялення Руху «За Свабоду», спачатку – каардынатар, з ліпеня 2010 года – абраны старшыня. Адначасова сябра Савета ГІ «Гомельскі дэмакратычны форум».

2007. Балатаваўся ў Гомельскі абласны Савет дэпутатаў.

2008. Вылучаўся ў Палату прадстаўнікоў, але ўлады нават не зарэгістравалі ініцыятыўную групу.

2010. Вылучаўся ў Гомельскі абласны Савет дэпутатаў, але ўлады таксама не зарэгістравалі ініцыятыўную групу.

# Онлайн-кансультацыі па вучобе

**У Віцебску ў красавіку стартаваў праект «Еўрапейская адукацыя для беларускай моладзі».**

Устаноўчы семінар праходзіў у мясцовым Еўраклубе. Анкетаванне паказала, што 90% прысутных маладых людзей ніколі не ўдзельнічалі ў адукацыйных праграмах Еўрасаюза.

Ніхто з апытаных таксама не удзельнічаў у конкурсах на паступленне ў еўрапейскія ўніверсітэты. Пры гэтым палова чула пра «Балонскі працэс» і праграму Erasmus Mundus.

«Вынікі апытання сведчаць, што вельмі важна беларускім юнакам і дзяўчатам паказаць магчымасці адукацыі ў еўрапейскіх краінах, якія існуюць ужо зараз», – адзначаюць каардынатары праекта.

«Мы хочам адкрыць Еўропу для беларускай моладзі, у першую чаргу – для навучання моладзі там. Чым больш магчымасцяў атрымае наша моладзь для навучання ў ЕС, тым хутчэй у нашу краіну прыйдуць стандарты еўрапейскай адукацыі з яе перавагамі. Навучанне ў еўрапейскіх ВНУ, якое дае адпаведную адукацыю і адпаведную кваліфікацыю, у тым ліку пашырыць магчымасці працаўладкавання. Прыкладна ў гэтым заключаецца мэта нашага праекта», – дадае каардынатар Руху «За Свабоду» па Віцебскай вобласці Хрыстафор Жаляпаў.

Падчас семінара прысутныя азнаёміліся з інфармацыяй пра дзейнасць трох еўрапейскіх ВНУ - Універсітэта менеджменту і эканомікі ISM (Літва), Акадэміі Леона Казьмінскага (Польшча), Кіеўскай школы эканомікі (Украіна). Удзельнікі атрымалі копіі афіцыйных брашур навучальных установ, якія дагэтуль былі прадстаўленыя на канферэнцыі «Эканамічная і бізнес-адукацыя за мяжой», што ладзілася ў Мінску.

Неўзабаве віцебскі Еўрапейскі клуб (ул. 1-я Сенненская, д.5; vitnews.ucoz.org; vitnews@tut.by; тэл. 8 025 663 51 85) распачне он-лайн кансультацыі па адукацыйных праграмах за мяжой.

# "Сейбіты Беларушчыны"

**У мінскім офісе Руху "За Свабоду" (пр-т Незалежнасці, 80-73) праходзіць выстава "Сейбіты Беларушчыны".**

**Экспазіцыю складаюць фотапартрэты выбітных дзеячаў беларускай навукі, культуры і мастацтва, зробленыя у 2006-2012 гадах. Аўтары фотаздымкаў – Эла Дзвінская, Кастусь Гарэцкі, Арцём Лява.**

**Уваход вольны.**



# Што для нас еўрасуседства?

**Распачаўся конкурс фотаздымкаў у межах "Еўрапейскага міжкультурнага фэсту-2013", які ўпершыню ладзіцца ў Беларусі. Фестываль пройдзе ў траўні ў Мінску і некаторых абласных гарадах Беларусі.**

Арганізатары мерапрыемства прапануюць магчымасць больш даведацца пра гісторыю і культуру краін-удзельніц Еўрапейскага Саюзу, а таксама іншых краін, якія разам з Беларуссю ўваходзяць у ініцыятыву "Усходняе партнёрства", – Азербайджана, Арменіі, Грузіі, Малдовы, Украіны.

Тэма конкурса фотаздымкаў "Еўропа па суседстве" мае на мэце абудзіць інтарэс да Еўропы і Беларусі, паказаць, наколькі еўрапейскія каштоўнасці прымаюцца ў Беларусі, а таксама зразумець, што такое "Еўрапейскае суседства" для сучаснага беларуса.

Удзельнікам конкурса неабходна знайсці сюжэт па тэме "Еўропа па суседстве" і зрабіць адзін альбо некалькі здымкаў альбо інсцэнаваць выяву адпаведна тэме конкурса.

Работы неабходна да 20 траўня накіраваць на эл.адрас info@democraticbelarus.eu. Удзельнікамі конкурса могуць быць грамадзяне Беларусі, якія жывуць у краіне (як прафесійныя фатографы, так і аматары). Фармат фотаздымка .jpg, разрашэнне 300dpi, фармат (1024 x 768), памер фотаздымка ад 1 MB да 3 MB.

Ад кожнага ўдзельніка прымаецца не больш за 3 фотаздымкі. Разам са здымкам адпраўце сваё поўнае імя і прозвішча, паштовы адрас, адрас электроннай пошты, а таксама нумар тэлефона.

Пераможцаў конкурса чакае двухдзённая паездка ў Брусэль. Прызёры атрымаюць помныя падарункі.

# Што ты ведаеш пра паўстанне Каліноўскага?



**Аргкамітэт па адзначэнні Года Каліноўскага ладзіць конкурс, прысвечаны паўстанню 1863-1864 гадоў і асобе нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага.**

Конкурс «Лепшы знаўца паўстання Кастуся Каліноўскага» пройдзе ў два этапы – інтэрнэт-віктарына і «жывы» фінал. Каб узяць удзел у віктарыне, трэба прайсці адмысловую рэгістрацыю на сайце конкурса і выкарыстаць уласны профіль у сацыяльных сетках. Усім ахвотным даецца тэст з 30 пытанняў. Да кожнага пытання прапануюцца некалькі адказаў, адзін з якіх правільны. Час на тэст абмежаваны. Заданні ўдзельнікам віктарыны падбіраюцца выпадковым чынам з некалькіх соцень пытанняў, якія склалі па тэме конкурса гісторыкі і даследчыкі паўстання Каліноўскага. За слушныя адказы будуць налічвацца балы адпаведна ўзроўню складанасці пытанняў.

10 пераможцаў віктарыны выходзяць у фінал конкурса. Ён будзе ўяўляць сабой пісьмовы тэст і спаборніцтва ў фармаце «Брэйн-рынг». Пераможцы віктарыны атрымаюць у якасці ўзнагарод гульню «Паўстанцы» і кнігі, а пераможцы фінала – яшчэ дадатковыя каштоўныя прызы.

Інтэрнэт-віктарына стартуе 22-га траўня.

# «Падарожжа ў Еўропу»

**Цёплай парой тым болей будуць ладзіцца Мінскім Еўрапейскім клубам падарожжы да розных беларускіх мясцін. Партнёры Руху «За Свабоду» па арганізацыі вандровак у межах краязнаўчага праекту “Падарожжа ў Еўропу”. – Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гістрыі і культуры і агульнанацыянальная кампанія “Будзьма беларусамі”.**

27 красавіка адбылася краязнаўчая вандроўка «Дняпроўска-Сожскае міжрэчча”, бо асноўны маршрут пралягаў менавіта паміж гэтымі вялікімі беларускімі рэкамі ў іх сярэдняй плыні, колькі дзесяткаў кіламетраў на поўдзень ад Магілёва – сталіцы беларускага Падняпрўя. «Менавіта тут і шукалі разам Еўропу, а дакладней матэрыяльныя рысы еўрапейскага культурнага кантэксту, у якім на працягу гісторыі развівалася наша Бацькаўшчына»,- кажуць арганізатары вандроўкі.

Падчас 70 вандроўнікамі яе былі наведаны сівыя Рагачоў і Прапойск (сучасны Слаўгарад), дняпроўская цвярдыня Быхаў, былое гандлёвае мястэчка Доўск на скрыжаванні дзвюх дарог, якія за часамі Расійскай імперыі сталі галоўнымі магістральнымі шляхамі з захаду на ўсход і з поўначы на поўдзень, найпрыгажэйшы сядзібна-паркавы комплекс у Грудзінаўцы і нават мемарыял, узведзены ў гонар 200-годдзя бітвы пад Лясной.

Бюлетэнь Руху «За Свабоду» прапануе план наступных падарожжаў, запісацца на ўдзел у якіх можна праз кантакты кіраўніка Мінскага гарадскога аддзялення Руху «За Свабоду» Юрася Меляшкевіча (мабільны +375 29 1694811, электронная пошта - meliashkevich@gmail.com).

# Бліжэйшыя вандроўкі

**25 траўня, падарожжа “Сталіца Заходняга Палесся”:**

Дабраслаўка – драўляная Троіцкая царква 1758 г.

Лагішын – касцёл Св. Пятра і Паўла 1907 г. у нэагатычным стылю, Спаса-Аб’яўленчая царква кан. 19 ст., местачковая забудова кан. 19 – пач. 20 стст.

Парэчча – рэшткі сядзібнага комплекса Скірмунтаў, магіла Рамана Скірмунта.

Пінск – палац Бутрымовіча 1784 – 90 гг., калегіюм езуітаў 1634 – 1648 гг., касцёл Карла Барамея 70-х гг. 18 ст., былы касцёл і кляштар бернардынцаў 1786 г., касцёл і кляштар францысканцаў сяр. 18 ст., сінагога 1900 г., шэраговая забудова гістарычнага цэнтра 18 – пач. 20 стст.

**8 чэрвеня, вандроўка “Сцежкамі Паазер’я”:**

Лепель – касцёл Святога Казіміра сяр. 19 ст. – класіцызм, забудова цэнтру горада сяр. 19 – пач. 20 стст., Лепельскае возера.

Губін – касцёл Святога Антонія 1714 г., стыль – барока.

Бачэйкава – сядзібна-паркавы комплекс Цеханавецкіх 2-й пал. 18 ст.

Двор Нізгалава – сядзібна-паркавы к-с 2-й пал. 19 ст.

Ула – касцёл св. Духа 1853 г. – класіцызм, царква Троіцкая 1896 г., замчышча 16 ст.

Арэхаўна – сядзібна-паркавы комплекс сяр. 19 ст., царква Святой Параскевы Пятніцы 1884 г.

Ушачы – касцёл Св. Лаўрэна 1913 г., фрагменты гістарычнай забудовы.

Селішча – касцёл і кляштар бернардынцаў у стылю барока 1726 г.

Газета выдаецца Рухам “За Свабоду”. Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 3.05.2013 г. Кантакты Рэдакцыі: тэлефон: 2808863, е-пошта: info@pyx.by